# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

ОРГАН ЦКЛКСМБ

XVIII
7442
(XVIII)




**САЛАМОН ЭНГЭЛЬ.**

Год таму назад у Лодзі, згодна прыгавару палявога суда за забойства провакатара, расстрэлен комсамолец Саламон Энгэль.

Энгэлю—18 год. На судзе ён трымае сябе, як належыць гэта барцу-комунару.

— Ці лічыш ты сябе віноўным?

— Прад рэволюцыйнымі масамі—рабочымі і сялянамі—лічу сябе вінным у тым, што не давёў справу рэволюцыі да канца, але разам з тым упэўнен, што гэта выканаюць другія,—такі быў адказ Энгэля ў прадсьмертны час белапольскаму суду.

№ 5 1925

[library stamp]

# ЗЬМЕСТ.



---

XVIII
7442
(XVIII)

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.
Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

№ 5 | Чэрвень 1925 г. | Менск

Белорусская Государствен. Публичная Библ. 5 окт 1925

## 1905*).

*(Спроба рэволюцыйнай дынамікі).*

### Агульнае.

1905. Рэволюцыя.

Абарваліся ланцугі людзкога цярпеньня. Чакаць далей няма магчымасьці... Рэволюцыя патрэбна. Стогне рабочы, енчыць селянін. А пан-памешчык, а пан-фабрыкант рагочуць... Яны жывуць... Для іх жыцьцё... Для іх мільёны замурзаных рабочых, мільёны сярмяжных сялян...

Цягніце лямку... І ні, ні... ані духу... калі чуць што... дык сіла ў нас—гэта капіталістыя.

А асілак-рабочы: Досыць пакуты... Досыць цягнуць абрыдлую лямку, ня бачачы сьвету! Досыць праклядьцяў з-падцішка,—паўстань праклядьцем катаваны!

А селянін: Скідайце ярмо панскага прымусу! Толькі той гаспадар—хто працуе!..

Паўстань мужык! Паўстань, хто з голаду век пух! Досыць! Прэч паноў! Мы самі стаць павінны гаспадарамі!

І пранесьліся гэтыя галасы. І забурліў розум у мільёнах мужычых і работніцкіх галовах!

Да волі пачаў клікаць другія дзесяткі, соткі мільёнаў, рваць ланцугі заклікаў!

І абарваліся путы цярпеньня. Наступіў 1905 год. Прышла, пранеслася, пракацілася з кута ў кут навальніцай рэволюцыя... Першая Расійская Рэволюцыя 1905 году.

### Менск гарыць.

Менск гарыць... Але не пажарам. Ня Менск гарыць, а тысячы пролетарскіх розумаў Менску... Гарадь надзеяй скінуць агіднае царскае правіцельства, правіцельства жандараў, паноў, чыноўнікаў...

Прэч самадзяржаўе!

Прэч цара!

Прэч дзяржаўную думу!

Няхай жыве Рэволюцыя!

Няхай жыве Рэспубліка!..—нясуцца воклікі пролетарыяту ўсё гучней і гучней... Падступаюць пад горлы царскіх чыноўнікаў гэтыя словы—чуюць яны, што задушыць іх могуць, і прымаюць „належныя крокі"... Ня крокі, праўда, а бізун...

І ўсё мацней і мацней б'е, усё глыбей урэзваецца нагайка жандара ў сьпіны рабочых.

Стогне Менскі пролетарыят... Яго словы чуе Барысаў, Бабруйск, Магілеў, Віцебск і ў адказ паўстаюць. І там бізун, і там стогны... цэлы 1905 год... Але ня стогны пакорныя, ня стогны прыдушанага, а стогны паўстаўшага, азьвярэўшага, толькі стогнучага ад болі...

Ня стогны пакор'я чуюцца, а стогны болю...

Азьвярэўшая істота не адчувае нават і болю. Яна імкнецца да тае мэты, якую бачыла на працягу ўсяго жыцьця свайго, і вось-вось схопіцца за яе... дасягне мэты. Так і з пролетарыятам. Праз рэволюцыю да лепшае будучыны—гэта мэта ўсяго прыгнечанага пролетарыяту. Змагацца ёсьць за што, значыць, хоць і чуеш сьвіст нагайкі—змагайся! І змагаліся цэлы год... Урэшце нагайка сталася вінтоўкай, і халодным вострыем штыку, і пранырай куляй давай пранізваць пролетарыят. А ён яшчэ больш азьвярэў, стаў непакорным... і чутны, і відны былі:

Стачкі, забастоўкі, маніфэстацыі...

Арышты, расстрэлы, шыбельніцы...

Як першае, так і другое—адказы. Першае—адказ пролетарыяту капіталістым, другое—наадварот.

### У канцылярыі.

Кастрычнік.

Канцылярыя менскага губарнатара. Губарнатарам—гэнэрал Курлоў. Снуюць шпігі, прыслухоўваюцца да кожнага слова рабочых і дакладваюць „па начальству".

Вар'яцеюць чыноўнікі, са скуры лезуць... чуюць над горадам пах гары...

Стрыколіць апарат на тэлеграфе. Нэрвова выбівае:

.—..—...— —..—.. .—...— —.—..—...— —..—.,.—

гэта значыць:

*ПЕТЕРБУРГ из МИНСКА.*

*Департамент Полиции.*

*Брестская забастовала. Ожидается забастовка Роменской. Все типографии Минске прекратили работу, кроме губернской, которая охраняется. Ожидается всеобщая забастовка и учебных заведений. Классическая гимназия и коммерческое об'явили уничтожение самодержавия.*

*Губернатор* **Курлов.**

---

*) Рэдакцыя часопісі „Малады Араты" з прычыны дваццацігодзьдзя з часу рэволюцыі 1905 г. знашло патрэбным на працягу некалькіх нумароў азнаёміць нашых чытачоў з абразкамі гэтае рэволюцыі на Беларусі.

*Рэдакцыя.*

І праўдзяцца словы тэлеграмы... зноў стрыколіць апарат. Нэрвова выбівае:

*ПЕТЕРБУРГ из МИНСКА.*

*Управляющему Министерством Внутренних Дел.*

*Полная забастовка. Об'являю Минск военном положении. Слабости гарнизона телеграфировал. Все уезды об'яты беспорядками. Войск почти нет. Необходимо усиление войск полком регулярной кавалерии. Митинге Барановичах солдаты сорвали погоны генерала Артем'ева, побили его.*

*Губернатор* **Курлов**.

Побач з: „Полная забастовка. Все уезды об'яты беспорядками“ пра „пагоны, сарваныя на мітынгу“...

Недарма рэволюцыя, а з-за яе губарнатарская трасца...



Менск. Пляц Волі.

## На плошчы.

18 кастрычніка...

Памятны дзень...

І самы звычайны васеньні дзень...

У горадзе рэволюцыя...

А чуткі даўно насіліся, што 18 кастрычніка ў Менску рэволюцыя...

—·—

Мікола Рэўчык прыехаў у Менск на заработкі. Працуе на фабрыцы. Ну й цікавы-ж ён чалавек!

Чуе ад рабочых:

— Рэволюцыя.

І сам: раз рэволюцыя, дык рэволюцыя. Даўно ён ужо чуў пра рэволюцыю, даўно ён, яшчэ ў вёсцы, лічыў сябе рэволюцыянэрам, аднак ніхто ня верыў гэтаму.

Рэўчык аставаўся ў няпрымецьці.

Толькі калі прыехаў у Менск,—ён тут разгортвае сваю рэволюцыйную дзейнасьць.

Працуе ён у „дэпо“, у чыгуначнай майстэрні—малатабойцам, год з пяць, і тут робіцца гэроем рэволюцыі.

Шумны гэты 1905 год. Будзіць ён пачуцьцё сотак тых, якія адчуваюць сябе рэволюцыянэрамі.

Абудзіў ён і пачуцьцё Рэўчыка.

Сходкі, мітынгі амаль штодня зрабілі на яго ўплыў, выгартавалі рэволюцыянэра.

—·—

На плошчы натаўп.

Натаўп з адзінай марай... стварыць рэ-во-лю-цы-ю!

Гойсаюць разьезды коньніцы... стрымліваюць рэволюцыю...

— Не задушыць вам яе!—з натаўпу статны рабочы-чыгуначнік адказвае моцна, працяжна.

Словы знашлі сабе водклік у натаўпе.

— Ня стрымаць рэволюцыі!

— Няхай жыве Рэспубліка!

У натаўпе пранёсься шум. Гэта пачалі супакойваць—адчыняўся мітынг.

— Цішэй, цішэй, таварышы!—праносіцца вокліч у натаўпе.

Раптам над галовамі выстыркаецца фігура рабочага. Па твары й адзежы пазнаць можна мэталістага—Рэўчыка.

— Таварышы! — кідае ў натаўп.—Сёньня сабраліся мы тут, вы, мабыць, ведаеце чаго? Мы вас апавясьцілі. Цар выдаў маніфэст, які ад нас трымаюць у сакрэце! Нам патрэбна ведаць яго, каб надалей знаць, як змагацца. Мы патрабуем яго апавяшчэньня!

Мы катэгорычна протэстуем супроць арышту ні ў чым нявінных нашых таварышоў, якія знаходзяцца ў турме. Мы патрабуем іх вызваленьня!

— Патрабуем вызваленьня!—пранеслася ў натаўпе і адгукнулася водгульлем.

— Помста тыранам!

— Прэч самадзяржаўе! — не супакойваўся натаўп.

Нехта выстраліў...

Стаячыя ля прамоўцы—Рэўчыка—шэрагі рабочых хістануліся ў бакі.

Куля коннага жандара нацэліла ў твар Рэўчыка. Ён хістануўся наўзьніч, яго падхапілі...

— Першая ахвяра рэволюцыі,—ціха прагаварыў нейкі стары барадаты рабочы.

Першая ахвяра зрабіла на натаўп уплыў.

Гучна неслася:

„Вы жэртвою палі...

„У барбе ракавой“...

А натаўп, абкружаны коннай паліцыяй, нярухома стаяў ля дому губарнатара патрабуючы вызваленьня арыштаваных рэволюцыянэраў і апавяшчэньня маніфэсту.

Адчувалася духата, сьпякота, чакалі губарнатара.

А ў канцылярыі губарнатар дыктаваў:

*Полная забастовка.*

*Двухтысячная толпа осаждает мой дом, требуя освобождения арестованных. Ожидаю распоряжений.*

*Губернатор* **Курлов.**

Пачалося 18 кастрычніка...

(*Працяг будзе*).

**Іл. Барашка.**

# АСТРОЖНІК.



Паўлюк Трус.

За высокай, панурай сьцяною,
Дзе зьвінелі няволі замкі,
Там юнак з паднявольнай душою
Уміраў комсамолец Якім.
Уміраў...
не згасаючы погляд
Мерыў буйна-квяцістую шыр.
Ой, ты, поле, шырокае поле,
Для цябе я сягоньня чужы.
Дома бяцьку пакінуў старога,
Ня стрымоўвала сэрца нуды...
Помню, там—на крыжастых дарогах,
Бацька з сынам прашчаўся тады.
Чула сэрца старога дзядулі,
Чулі ўпалыя грудзі яго,
Што ўжо больш у вясковым завульлі
Ня сустрэне Якіма свайго.
І каціліся сьлёзы на сьвітку,
Засыпаў цёмна-сіні прастор.
Яго гора мужычага сьведкай
— Быў задумны, кудравы сыр-бор.

* * *

Там вясна... а тут краты астрогу,
Ой, ты, сэрца, ня стукай, ня ный!
Вочы мерылі гоні-разлогі,
— Усьміхаліся шчасьцю яны.
Там лясок... Сенажаці... Даліны...
Цёмны гай... Адзінокі Карней...
Ой, палі чужа-дальняй краіны,
Прысудзеце свабоду вы мне!..
Прысудзеце арлу маладому,
Бо мне хочацца вольна кружыць!..
Але не, але не—невядома,
— Нешта вецер гудзе на мяжы.

Заўтра рана за горадам, мусіць,
Мяне куля сястрыцаю стрэне.
— Ня сумуйце-ж, лясы Беларусі,
Што мяне ашлюбуе расстрэл.
Над магілай асеньнія сьцюжы
Прапяюць мае словы тады:
„За вялікую справу лапцюжных
Тут пахован Якім малады!"

* * *

Прывялі... Было ціха, спакойна,
Шумны горад пад горкаю спаў,
Як Якім малады, смугла-стройны,
На ўзьбярэжжы магілы стаяў.
Ой ня ведае голуб-татуля,
Ой ня ведае брат мой Карней,
Што сягоньня пад варажай куляй
Іх Якім у магіле засьне...
Дык няхай... Беларусі паўстанца
Раз апошні цалуе зара.
Мая справа ўраганам паўстане...
Тут пачулася страшнае „раз-з-з!".
Змоўк Якім, але сэрца ня млее,
Іскры родзяць паўстаньне ў вачох.
А душа... яна й тут паланее,
Паланее агнём... тра-та-тах!..
Паваліўся... Няма і ня будзе...
Акрапіліся бровы расой.
Толькі кроў праз кіпучыя грудзі
Ружавіла магільны пясок.

* * *

Ён памёр... Расстралялі Якіма.
Цёмны лес зашумеў галасьней.
Але справа магутнага КІМ'у
Не памрэ!.. будзе вечна квітнець.
Ой ня раз Беларусі абшары
Чырванелі крывавай расой.
Буду помніць яго, комунара,
Буду помніць паўстанца лясоў.
І вянок з кіпарысаў Варшавы
Прынясу на магілу байца.
Ой пракоцяцца новаю славай
Яго справы, што я заляйцаў.
Заляйцаў у душы комсамольскай,
Ў сэрцы палкім, як ў горане жар.
Будуць помніць Якіма ваколіцы—
— Беларусі кудравы імшар.
Ён памёр... Расстралялі Якіма,
Цёмны лес зашумеў галасьней.
Але справа стыхійнага КІМ'у
Не памрэ, будзе вечна квітнець!..

П. Трус.





Беларускі лірнік.

## ПЕСЬНЯ ЛІРНІКА.

Старац-лірнік на прызьбе сядзеў
Пад вакном мужыка беларуса,
Навёў струны і песьню запеў
Пра мінулыя часы прымусу.

Як калісь тут, на нашай зямлі,
Йшло за волю і веру змаганьне,
Панскі зьдзек як сьцярпець не маглі
І паднялі казакі паўстаньне.

Як з касою, з сякерай ў руцэ
Пагарджаны народ сабіраўся,
Між балот і лясоў па рацэ
У казацкі ён стан гуртаваўся.

Як той стан стаў усіх вызваляць
З ланцугоў і чужацкай няволі,
Стаў суда ён і праўды шукаць,
Стаў шукаць для людзей лепшай долі.

Ў яго песьні я чуў імяніны
Ваякоў-атаманаў казацкіх,
Што з адвагаю біліся яны,
Як Нябаба... Антон Галавацкі...

Старац хвалы ім песьню сьпяваў,
Струны ліры гучней усё йгралі...
Шмат імён ён яшчэ ўспамінаў,
Што таксама калісь ваявалі.

Ды вось сумную песьню пяяць
Ён пачаў, і усіх задзівіла:
Ў гэтай песьні ён стаў праклінаць
Ворага—Янушу Радзівіла.

Аб ім старац шмат страху казаў,
Ажно з жалю сьціскаліся грудзі,
Як ён вёскі паліў, мужыкоў забіваў,
Як бязьвінную кроў лілі людзі.

Лірнік скончыў: „Любіце свой край,
А як вернецца час той прымусу,
Тады ў лес, брат-мужык, уцякай,
Ён прытуліць цябе—беларуса“.

Укруг старца сабраўся народ,
Слухаў песьню... і чую я крыкі:
„Хай казацтва жыве, як ўпярод,
Хай жыве атаман іх вялікі“...

**М. Чарот.**

## Братам—беларусам.

Даволі стагнаньня,
Даволі няволі,
Пара да змаганьня,
Да лепшае долі!
На пана працуеш—
Крывавая праца.
Нам турмы будуюць,
Сабе—палацы.
Дзетак-малютак
У цемры трымаюць,
Да школы-пакуты
Ісьці прымушаюць.
Ні хлеба, ні грошай
За працу ня плацяць,
„По міласьці божай“
Кішэні багацяць.
Даволі няволі,
Даволі стагнаньня.
Пара да змаганьня,
Да лепшае долі.

**Паўлюк Шукайла.**

## АРЛЯНЯТАМ.

Гэй, узьвейце сваім крыльлем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасьцю хаўтурнай!..
У маланках пяруновых,
З гулкім гоманам грымотаў
Для вякоў дыхтуйце новых
Нячувалыя ясноты.
Вам сярпы і косы ў рукі
Ды мячы, каваны з сталі,
Далі буры, завірухі,
Што тут вылі, бушавалі.
Цень мінуўшчыны праклятай,
Дзе бізун гуляў з нагайкай,
Зьмяцiцё вы, арляняты,
Сваёй новай сілай, байкай—
Ужо выбіла часіна
На вялікую прыгоду
Выйсьці з мутнай каляіны
Беларускаму народу.
Ў чарадзейным карагодзе,
У небасяжнае свабодзе,
Без аковаў, на прывольлі
Ўжо віхрыцца наша доля.
Вам на памяць Серп і Молат
Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
Ня гнуў плеч ніколі.
Каб здабытую свабоду
Зналі, шанавалі
І у цяжкую прыгоду
Ўсталі грознай хваляй,
Зашумелі, загудзелі,
Як віхор сусьветны,
Не праспалі у пасьцелі
Волі агняцьветнай.

**Янка Купала.**

# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ.

## Культурна-масавая праца на вёсцы летам.

### Недахопы ў нашай масавай рабоце.

Формы масавай работы на вёсцы ў аснаўным у нас маюцца. Гэта сходы вясковай моладзі, сходкі вясковых дзяўчат, „дні“ ці „культдні“, як яны ў нас у большасьці месц называюцца, вячоркі сялянскай моладзі і інш.

Дрэнна стаіць справа са зьместам, які мы кладзем у гэтыя формы.

З галоўных недахопаў у зьмесьце нашай масавай працы можна адзначыць тры:

1) У некаторых мясцовасьцях прымячаецца вялікае захапленьне культурнымі пытаньнямі, як, напрыклад: даклады па прыродазнаўству, па агрономічных пытаньнях і больш нічога.

2) У іншых месцах—перагрузка зьместу нашых масавых сходаў дакладамі аб міжнародным становішчы і другімі „тяжеловесными“ пытаньнямі.

3) Паўнейшае адсутнічаньне амаль што ўсюды пастаноўкі на масавых сходах сялянскай моладзі практычных пытаньняў—пытаньняў па вясковай грамадзкасьці.

Зжыць гэтыя галоўныя недахопы зьяўляецца першым і чарговым заданьнем нашай масавай працы.

Галоўнае месца ў масавай рабоце павінна заняць сялянская грамадзкасьць: абгаварваньне пытаньняў аб рабоце мясцовай школы, хаты-чытальні і г. д.; трэба ўцягваць, шляхам пастаноўкі гэтых пытаньняў бядняцкую і серадняцкую моладзь вёскі да актыўнага ўдзелу на сходках і ва ўсім грамадзкім жыцьці вёскі.

Высьвятленьне політпытаньняў і пастаноўка культурных пытаньняў зьяўляюцца неабходнымі элемэнтамі нашай шырокай работы і сходаў сялянскай моладзі, але завальваць імі павестку дня, рабіць нуднымі і доўгімі сходы ні ў якім разе ня варта.

Наладжаньне вечарынак і іншых вясёлых пагулянак пасьля сходу, бязумоўна, ня шкодна, але трэба апасацца такой вечарынкі, бо вясковая моладзь, як пачне скакаць, гуляць, дык часамі забываецца пра ўсё тое, што ёй гадзіну назад казалі.

### Трэба скарыстаць вясновыя сьвяты.

Галоўнаю задачай у масавай рабоце летам зьяўляецца добрае правядзеньне рэволюцыйных сьвят і правільнае выкарыстаньне сьвят рэлігійных. Асабліва важна для нашых ячэек навучыцца карыстацца рэлігійнымі сьвяткамі, бо ў гэтай галіне мы багаты больш, як дзе, на недалікі.

У нядзелю ці ў другія дробныя сьвяты, калі старыя сяляне зьбяруцца ды ўсядуцца дзе-небудзь на бярвеньні ці на прызьбе і пачнуць гутарыць аб сваім жыцьці,—нам трэба не зяваць. У такім выпадку трэба выдзяліць аднаго-двух хлапцоў і паслаць з газэтамі да гэтых сялян, каб яны там пачыталі ім. Можна наперад сказаць, што сяляне з задавальненьнем будуць слухаць.

Такі мэтод нашай масавай работы—самы лёгкі і карысны.

Організаваць справу сярод моладзі яшчэ лягчэй. Ячэйка, раней падрыхтаваўшыся да гутаркі па 2-3 тэмах, адпраўляецца ў цэнтр вёскі, —на месца звычайнага збору вясковай моладзі; калі ёсьць—бярэ скрыпку, гармонік. Зыкі музыкі, бязумоўна, прыманяць да сябе вясковую моладзь. Тут ячэйка організованым парадкам пачынае гульні, скокі, а ў перарывы між імі займаецца сур'ёзнаю справаю: гутарыць на розныя тэмы, чытае „Малады Араты“, „Чырвоную Зьмену“ і інш.

Вясковыя кірмашы прыцягваюць да сябе сотні пажылых сялян, а таксама моладзі.

Гэтыя кірмашы трэба скарыстаць для наладжаньня спэктаклю, шырокіх спортгулень, на якіх праводзіць шырокую агітацыю за коопэрацыю, за коопэрацыйную краму на вёсцы.

### Праца на начлезе.

Праца ў часе начлегу праводзіцца ячэйкамі нашага саюзу ўжо некалькі год.

У гарачую пару летняй працы на начлезе праца павінна быць у большай частцы піонэрскай, паколькі на начлег водзяць у большасьці юнакі.

Якая-ж павінна праводзіцца праца?

А вось: гутаркі, чытка па газэтах, растлумачаньні пытаньняў па політыцы партыі і Савецкай улады на вёсцы.

А. Цэйтлін.

# ПА ЯЧЭЙКАХ ЛЕНІНСКАГА КОМСАМОЛУ.

## Як мы працуем.

*(Шацкая ячэйка ЛКСМБ, Меншчына).*

Узімку пры нашай ячэйцы існаваў сельска-гаспадарчы гурток, які займаўся па кніжцы „*Комсамолец за плугам*“.

Лекцыі чытаў агроном Шашэль. З прыходам вясны комсамольцы захацелі выявіць свае веды на практыцы, дзеля чаго ім адвялі сад і гарод, які раней быў папоўскім. Былі наладжаны тры нядзельнікі: на першым паабразалі й папалілі ўсё сухое суччо, на другім—пабялілі і на трэцім—узаралі і пасеялі грады. Адзін раз у два тыдні там-жа праводзілі заняткі сельск.-гаспад. гуртка.

Таксама ўсе сходы робім у садзе.

Комсамолец Ч. В.



Маладнякоўцы сярод вучняў і піонэраў.

## Разьдзялілі ячэйку—праца ажыла.

*(Глуск, Бабруйшчына).*

Да мая месяца ў Глуску была толькі адна местачковая ячэйка, якая яднала як местачковую, так і сялянскую моладзь.

Толку ад такой ячэйкі было мала. Беспартыйныя яе ня любілі.

— Так нядобра,—парашыў райком КСМ і разьбіў ячэйку на яч. сельсавету і профсаюзную.

Вынік разьдзелу добры. Як сялянская, так і местачковая моладзь сталі акуратна наведвацца на сходы.

Ажыла і ўнутрыячэйкавая праца, падялася актыўнасьць.

Кіт.

## Комсамол за краязнаўчай працай.

*(Калінінская акруга).*

У працягу ўсяе зімы кожная ячэйка ўпарта вывучала беларускую мову. Вынікі гэтай працы відавочны. Да 50 ячэек, у акрузе працуюць на беларускай мове, іншыя ячэйкі, у большасьці маладыя, толькі пачынаюць пераходзіць на беларускую мову.

У некаторых ячэйках можна заўважыць вялікую цікавасьць з боку саміх комсамольцаў да вывучэньня краю свае мясьціны. У краязнаўчай працы комсамольскія ячэйкі пачалі зьвязвацца з раённым краязнаўчым бюро.

А. Палонскі.



# ЗА НОВУЮ ВЁСКУ.

## Гутаркі агронома.

### Аб папарах.

Па ўсёй Беларусі азіміну найчасьцей сеюць пасьля папару. Сеюць таксама і пасьля канюшыны і ў выключных толькі выпадках пасьля бульбы, гароху, вікі і г. д.

Папары бываюць розныя: там, дзе гаспадар мае даволі пасьбішча для быдла, апрацоўку папару распачынаюць ў восень. Такі папар, пачынаючы ад часу першай воркі ці ад часу зяблевай пахаці ў працягу ўсяе весны ў лета і да часу пасеву знаходзіцца ў завораным стане й называецца *папарам чорным*.

З прычыны недастачы пасьбішч ці няправільнага іх карыстаньня, часта на папарах пасуць быдла, і поле пад засеў азіміны заворваюць толькі летам. Такі папар завецца *звычайным* ці *пасьбішчным*.

Шмат гаспадароў на папарах пасьля іх угнаеньня ўвесну, а часам і без угнаеньня, засяваюць мяшанкі вікі з аўсом ці ячмянём на зялёны корм. Гэткае поле, пасьля скосу мяшанкі ў чэрвені, заворваецца і прыгатоўваецца пад сяўбу азіміны. Пры недахваце гною многа гаспадароў з вялікай карысьцю ўжываюць пасеў на папары лубіну на зялёнае ўгнаеньне. Такі папар завецца *зялёным* ці *занятым*.

Кожны з папараў патрабуе асобнага вырабу глебы. Так, напрыклад:

*Чорны папар*: увосень пасьля вывазу гною прыворваюць яго на 3-4 вяршкі глыбока; калі ўсяго поля ўгнаіць не пасьпелі, вывозяць гной увесну як мага раней і прыворваюць. Пасьля гэтага ў працягу весны й лета ральлю падтрымліваюць у пухкім стане і нішчаць пустазельле звычайнымі баронамі і, час-ад-часу, пружыноўкамі ці драпакамі, як няма пружыновак. Калі на полі шмат пырніку, то яго магчыма зьнішчыць баранаваньнем у сухія сонечныя дні, пасьля чаго яго з поля выграбаюць граблямі. За 4 ці 5 тыдняў да сяўбы трэба ральлю зарыць на поўную глыбіню. Гэты папар зьяўляецца найлепшым, хоць і найдаражэйшым, але, з другога боку, ад яго можна атрымаць найбольшую карысьць.

*Звычайны папар*, ці, як яго называюць, *пасьбішчны*—найменш пажаданы, але які яшчэ ў значнай колькасьці ўжываецца з прычыны недастачы пасьбішч. Калі хто гэты папар прымушаны ўжываць, то апрацоўка яго найлепшая будзе наступная: пасьля таго, як скончым вясеньні пасеў, як мага раней вывозім гной і прыворваем яго на 3-4 вяршкі глыбіні, а каб гной барджэй перагніў, прыціскаем вальцам з наступным баранаваньнем дзеля захаваньня вільгаці. За 4 ці 5 тыдняў да сяўбы таксама, як і ў чорным папары, арэм на поўную глыбіню.

Выраб *папару занятага* распачынаецца таксама, як і чорнага, толькі ўвесну; пасьля таго, як гной ужо прыворваны, засяваем мяшанку з вікі і гароху з аўсом ці ячмянём на зялёны корм. Пасьля скосу мяшанкі поле як найхутчэй заворваем на 2-3 вяршкі і прыціскаем вальцам, каб жнеўнік барджэй перагніў, а затым баронуем. За 4-5 тыдняў прадпасеўная ворка.

У гаспадарках, дзе глеба пескавая ці калі недастача гною, у папары можна засеяць лубін на зялёнае ўгнаеньне: на пескавых глебах—жоўты, а на глебах цяжэйшых (глінах і суглінках)—сіні ці белы. На зялёнае ўгнаеньне магчыма таксама засяваць і прыворваць мяшанкі лубіну з вікай, гарохам і г. д., зразумела, на лепшых глебах. Пасьля таго, як лубін ці мяшанка зацьвіце, прыворваем і вальцуем, каб прыціснуць зямлю, ад чаго ён хутчэй гніе, а таксама, каб было магчыма менш пустых прамежак у ральлі.

Збожжа ўжо засяваецца без паўторнай воркі.

Пры вырабе зямлі перад пасевам ці ў часе сяўбы ня трэба грунту выраблядь на парашок дзеля таго, што ад дажджу ён можа зьверху зьліцца і зацьвярдзець, з прычыны чаго расьліны могуць не паўсходзіць. Асабліва гэта трэба мець на ўвазе на падзолістых глебах, якіх шмат на Беларусі, а таксама і на глінах.

Добра выраблены грунт павінен быць грудкаваты (у дробных глыбках), чысты ад пырніку і зраўнованы баронамі.

## Дапамога жывёле пры ўздуцьці.

Увесну й летам здараецца, што тая ці іншая жывёла раптам уздуецца. Бывае гэта найчасьцей у быдла, хоць можа здарыцца і ў іншай жывёлы, напр., у коняй ці ў авечак.

*Прычыны.* 1) Усялякі сочны корм, а асабліва прамочаны дажджом ці расой, пасьля таго, як яго жывёла зьесьць, вельмі хутка разбрыняе, ад чаго ў кіндзюку зьбіраецца шмат газаў, якія яе пушаць. Гэта самае можа здарыцца ад таго, калі быдла вельмі нап'ецца вады, асабліва пасьля яды.

2) Маладая канюшына, грэчка, маладая трава перад цьвіценьнем, маладыя пасевы і ржышча, лісьцё капусты і буракоў таксама могуць быць прычынай уздуцьця.

З пачатку хваробы дапамагае заганяньне ў раку ці абліваньне халоднай вадой хрыбта і кіндзюка, прагон і даўленьне кіндзюка і ўздутага боку абедзьвюма рукамі; пры гэтым належыць залажыць карове ў зубы драўляны дручок ці саламянае пярэвесла.

Яшчэ лепш можа дапамагчы *кіндзюковая трубка*, калі яна маецца ў гаспадара ці на вёсцы.

Гэта ёсьць скручаная трубка з сталёвага дроту, абшытая мяккай скурай ці гумай з трысьцінай дзеля пратыканьня. Трубку цераз горла ўпушчаюць у кіндзюк, у якім сабраліся газы. Робячы гэта, трэба памятаць, каб карова ці іншая жывёла стаяла перадам вышэй, чым задам; галаву падняць угору, каб морда была крыху вышэй, чым хрыбет (рыс. 1) і тады ўсунуць праз горла трубку да кіндзюка, пасьля чаго з яе выцягнуць трысьцінку. Зараз-жа пачнуць праз трубку выходзіць газы і ўздуцьце праходзіць.



Рыс. 1.

У цяжкіх выпадках, калі ўсе гэтыя спосабы не памагаюць ці калі вельмі позна агледжана ўздуцьце, магчыма дапамагчы прабіцьцём боку *трокарам* (рыс. 2—востры трохкантавы кінджал у мядзянай аправе). Прабіваецца левая пахвіна на адлегласьці далоні ад сьцягновай косьці; мядзяная аправа пасьля прабіцьця застаецца ў ране, а трокар вымаецца. Праз аправу выходзяць газы, а ўздуцьце кіндзюка ападае. Пасьля таго, як газы выйдуць, рану належыць абмыць карболкай і заляпіць пляйстрам.

*Адзнакі.* Раптоўнае ўздуцьце кіндзюка, скура з левага боку кіндзюка нацягваецца, як бубен. Жывёла траціць апэтыт і жуйку, пачынаюцца натугі дзеля аддачы калу і пасьпешнае дыханьне. Хворасьць пашыраецца вельмі хутка, сьмерць можа здарыцца ў працягу 2-3 гадзін, калі ня будуць прыняты тыя ці іншыя меры.



Рыс. 2.







Рыс. 3

*Лячэньне.* Калі ўздуцьце заўважана хутка, то лягчэй тады з ім змагацца. Чым пазьней прыступім да ратунку, тым цяжэй дапамагчы. Часта спачатку дапамагае ўліцьцё ў горла жывёлы кварты вады з дадаткам дзьвёх лыжак *аміяку*, які павінен быць заўсёды ў гаспадарцы на ўсялякі выпадак. Замест аміяку магчыма ўжыць лыжку нягашанай вапны на бутэльку вады.

Калі ня маем трокару, то можна бок прабіць звычайным вузкім сьпічастым нажом, які ў ране трэба павярнуць напоперак, каб газы маглі выходзіць.

Трокар ці нож ужываецца, як астатні ратунак, калі ўжо іншыя сродкі не памагаюць

**Агроном У. Даведчык.**

## Шэфы ў вёсцы.

*В. Масчанова, Пухавіцкі раён, Меншчына.*

Нядаўна к нам пряжджалі шэфы ад другой тэр. дывізіі з гораду Менску. Прывезьлі літаратуры, газэт. Пагутарылі з сялянамі аб тым, аб сім, потым на цягнік і да Менску.

— Добрая рэч гэтыя шэфы!—удагонку паслалі ім сяляне. **В. Ф. Бразгоўка.**

## Коргурток працуе.

*Стара-Барысаў.*

Каб прыблізіць сьценкораў да газэты і навучыць пісаць у яе, наша ячэйка організавала коргурток. Праца ў ім добрая. Цяпер ён мае 18 сяброў.

Перад выхадам нумару насьценнай газэты коргурток зьбіраецца і агулам намячае плян газэты, а таксама і выпраўляе заметкі.

Коргуртком кіруе бюро, у склад якога ўваходзяць 3 асобы.

На сходах гуртка ставяцца пытаньні аб корэспондэнцкім руху, аб творчасьці „Маладняка“ і іншае. **М. Гаеўскі.**

## Крупінка сьвету—у цёмнай вёсцы.

*Вёска Касачы, Віцебшчына.*

Аднаго разу сяляне нашай вёскі, седзячы пад хатаю на прызьбе, сталі, як заўсёды, гутарыць аб сваім жыцьці і злаваць на сваю цемнату... Дашлі і да спэктакляў. Загаварыла тут і моладзь:

— Як-бы нам спэктакль наладзіць?!

— А будыніну дзе ўзяць?!

— Я сваю пуню дам,—адказаў адзін пажылы селянін. Усе абрадаваліся.

Паведамілі аб гэтым загадчыка местачковай чытальні. Ён згадзіўся прыслаць у нашу вёску свой драмгурток.

Касацкія сяляне і моладзь узяліся за пабудоўку сцэны ў пуні.

Да дня друку было ўсё гатова.

Настаў вечар. Прышоў драмгурток з мястэчка. Спачатку крыху пагутарылі аб „друку“, а потым спэктакль наладзілі. Прысутныя сяляне засталіся вельмі здаволенымі.

Моладзь радавалася, гледзячы на свой клюб-пуню.

Цяпер організуем свой драмгурток і будзем праводзіць ідэі комунізму ў сваёй цёмнай вёсцы. **Кавалёў.**

## Пролетарскі падарунак.

Рабочыя *Капыскага заводу „Пролетары“* (Аршанская акруга) шэфствуюць над Зубоўскім сельсаветам.

У дзень Першага мая рабочыя адмовіліся ад маёўкі і парашылі на тыя грошы, якія-б затраціліся на „шамоўку“, купіць падшэфнай вёсцы малатарню з прыводам.

За 400 рублёў купілі малатарню і, пашоўшы ўсім заводам у вёску, на ўрачыстым сходзе перадалі яе сялянству.

Разам з малатарняю падарылі яшчэ і сьцяг. **Комсамолец.**

## Моладзь за працаю.

*В. Бабы, Пухавіцкага раёну, Меншчына.*

Наша моладзь—на краю нoвага жыцьця. Сярод яе ёсьць 3 комсамольцы, з іх адна комсамолка. Яны працуюць сярод усяе вясковае моладзі.

У школе пабудавалі хату-чытальню, а пры ёй гурткі: сельска-гаспадарчы, політычны, драматычны і вайсковых спраў.

У гуртках займаецца ўся вясковая моладзь.

Загадвае гурткамі комсамолка Ковель.

Селькор **Жлобін.**

## Чырвоная армія.

Белая армія, чорны барон
Зноў нам рыхтуюць царскі трон...
Ды ад тайгі да брытанскіх марэй
Армія Чырвоная ўсіх мацней.
Дык хай Чырвоная
Свой штык гартованы
Трымае моцнаю рукой.
І ўсе павінны
Мы бязупынна
Ісьці ў апошні страшны бой.

Станем мы моцнай сталёвай сьцяной—
Рэвваенсавет нас кліча ў бой.
Бо ад тайгі да брытанскіх марэй
Армія Чырвоная ўсіх мацней.
Дык хай Чырвоная
Свой штык гартованы
Трымае моцнаю рукой.
І ўсе павінны
Мы бязупынна
Ісьці ў апошні страшны бой.

Мы распалім пажар на ўвесь сьвет,
Цэркваў і турмаў зьніштожым і сьлед,
Бо ад тайгі да брытанскіх марэй
Армія Чырвоная ўсіх мацней.
Дык хай Чырвоная
Свой штык гартованы
Трымае моцнаю рукой.
І ўсе павінны
Мы бязупынна
Ісьці ў апошні страшны бой.


Дзяржаўная бібліятэка імя В. І. Леніна БССР

# ЧАСТУШКІ.

Ой ляцелі гусі
Над вішнёвым садам.
А я падпішуся
З сваціяю Агатай,

А я падпішуся
Сёньня на „Араты“.
Ой ляцеце гусі
Над маёю хатай.

Гусі праляцелі,
Селі на вазёрах.
Мы з кумой Разэляй
Выпісалі ўчора,

Выпісалі ўчора
„МАЛАДЫ АРАТЫ“.
Зноў ляцяць з вазёраў
Гусі па-над садам.

Ой ляцелі гусі
Ключыкам, шнурочкам.
Удава Палуся
Сьлябізуе строчкі,

Водзіць па радочках
Вочкамі з ахвотай.
Ой ляцяць шнурочкам
Гусі над балотам,

Да ляцелі гусі
Плаўна над курганам.
Заўтра запішуся
З комсамольцам Янам,

Заўтра запішуся,
Ў ЗАГСЕ з комсамольцам.
Ой ляцеце, гусі,
На прастор ваколіц.

Гусі закружылі
Над шырокім морам,
Ў комсамол Марыля
Уступіла ўчора.

Уступіла ўчора—
Сёньня дэлегаткай.
Ой лчцеце скора,
Гусачкі, над хаткай.

Пад гарой ў даліне,
Дай шчэ за дубровай,
Там дунай-дзяўчына
Пасьвіла каровы.

Вечарэла ў полі...
Вечар пырскаў цені.
Ой ня знала болю
Смуглая Аксеня.

Сонца ў дэсэні
Запляло дуброву,
Як ужо Аксеня
Гнала ў хлеў каровы.

Ой каровы гнала
Пяючы да хаты,
У руках трымала
„МАЛАДЫ АРАТЫ“.

Ў ціхім задумленьні
Плакалі пагоркі
Як яна, Аксеня,
Шла на сход у школку.

П. Вясковы.

1.
Ой, шуміць кудлаты лес,
Гнецца бор сасновы...
Комуністы у сяле
Скажа ён прамову.

2.
Уладаў калісьці пан,
Гнілі хлопцы дома—
А цяпер і наш Сьцяпан
Будзе агрономам.

3.
Колісь езьдзіў нацянькі,
А цяпер, дык трактам...
Сталі ў нас бальшавікі—
Вёска купіць трактар.

4.
Шаптуны былі калісь,
Хворыя ўміралі;
Як да доктара пашлі,
Паміраюць мала.

5.
Поп раней дык за вясельле
Браў кілбасы, сала...
А цяпер у нас Марцэлю
Дарма запісалі.

6.
Чырванее макаў цьвет,
На сьцянах плякаты...
Выпісаў наш сельсавет
„Малады Араты“.

7.
Ой ляцела ды цяцерка,
Села на яліну...
У Ганулечкі цяперка
Ладзяць акцябрыны.

І. Плаўнік.



Хлопчыкі на беразе рэчкі.

Вечар зорачкі пасеяў;
Пахне рута-мята...
Я чытаю з Аляксеем
„Малады Араты“.

—Ці-ж няпраўда?—кажа Зоська—
Будзе жыць—прывольле,
Як пяройдзе наша вёска
Ой ды на щматпольле.

Ходзіць-бродзіць поп вясковы,
Патрасае грывай—
Ня дуры ты нам галовы,
Ой, патурым жыва!..

Ды нашто багам маліцца?
—Зазлаваў араты—
Не пайду я у капліцу—
Ёсьць чытальня-хата.

Весялее луг і поле...
Любата, яснота!..
Аратаі-комсамолы
Вышлі на работу.

Грай, гармонік, гучна-звонка!
Грай, Лявон, заўзята!..
Кінуў піць я самагонку,
Выпісаў „Араты“...

Л. Скрыпка.

# Вясковы тэатр.

## Уцёк з турмы.

*П'еса ў 3 актах.*

Перарабіў **Міх. Калента.**

АСОБЫ:

1. **Сьцяпан**—вясковы хлапец, 22 гады.
2. **Ганулл**—дзяўчына, 20 гадоў.
3. **Маці яе**—гадоў 50.
4. **Зьміцер**—вясковы хлапец, 30 гадоў } таварышы Сьцяпана.
5. **Максім**— „ „ 35 „ } таварышы Сьцяпана.
6. **Марыся**—таварышка Ганулі, гадоў 18.
7. **Ураднік**—гадоў 25.
8. **Стараста**—гадоў 45.
9. 1-шы хлапец.
10. 2-і хлапец.
11. 1-я дзяўчына.
12. 2-я дзяўчына.
13. 1-шы стары.
14. 2-і стары.
15. 1-шы стражнік
16. 2-і стражнік.

—) хор, народ (—

АКТ ПЕРШЫ.

Дзеецца каля хаты Ганулі. З правага боку сцэны—хата, каля хаты—плот. Ззаду—вуліца. Вечарэс.

Зьява I.

З хаты выходзіць некалькі дзяўчат, за імі Ганулл. Аб чымсь гавораць, сьмяюцца.

1-я дзяўчына (*паглядаючы на неба*). Ой, сястрыцы, які-ж сёньня вечар будзе прыгожы! Хіба-ж можна цяпер у хаце сядзець? Хутка-ж пройдуць такія дні, настане зіма і паняволі будзеш цэлыя дні ў хаце, а цяпер.. Ведаеце што? Хадзем у поле, або на луг, засьпяваем песьню, а там зьбяруцца хлапцы. Вось весела будзе!

Усе, апрача Ганулі. Хадзем, хадзем.

2-я дзяўчына. Вось праўду сказала Тэкля. Сёньня-ж можна цэлую ноч гуляць. Заўтра нядзеля!

Ганулл. Вы йдзеце сабе, а я таксама хутка прыду, бо маці вунь вячэру гатуе.

Усе. Не, не, так не гадзіцца. (*Адна з іх*). Вячэра яшчэ няскора, вось трохі пагуляем, а там прыдзеш і павячэраеш. (*З ухмылкаю*). Мабыць Сьцяпана хочаш чакаць? Дык і ён туды прыдзе, ня бойся.

Ганулл. Ды не, што вы. Ну, хадзем.

Усе. Вось маладзец Ганулл. Эх! (*пяюць*: „*Гляну, гляну я ў ваконца, працію яснага сонца*“ *і г. д. Ідуць налева*).

Зьява II.

Сьцяпан, Зьміцер з палкаю і Максім выходзяць з правага боку.

Сьцяпан (*перш за сцэнаю, а потым і на сцэне. Крычыць*). Але-ж некалі я табе накладу, таўстун ты чортаў. Абальлешся чырвонаю юхаю.

Максім. Годзі ўжо, годзі крычаць. Усё роўна не пачуе.

Сьцяпан (*да Максіма*). А ты чаго ўлез паміж нас? Якое табе было дзела бараніць мяне? Я-б яму добра даў, калі-б цябе ня прынесла.

Максім. Невядома хто каму даў-бы. Хіба-ж ты ня бачыў, што ён сякеру ўжо ўзяў у рукі?

Сьцяпан. Дык што, калі сякеру? Хіба-ж такі мы ўдвох не падужалі-б яго?

Максім. Хто-ж гэта „мы ўдвох?“

Сьцяпан. А я ды Зьміцер.

Максім. Зьміцер стаяў, як калода, нават і пальцам не крануў, каб абараніць цябе.

Зьміцер (*які да гэтага часу ўсе заглядаў у вакно хаты*). Бо я спужаўся.

Максім. Таму з цябе таварыш паганы, што ты вельмі палахлівы. Бачыў, што гэты таўстун Куртаты ўжо й сякеру схапіў, а ты й голасу нават не падаў.

Сьцяпан. Ну чаго ты прыстаў да яго? А можа й запраўды ён спужаўся...

Максім. Дык няхай з хлапцамі не таварышуе, а сядзіць на печы.

Зьміцер (*да Максіма*). Ты, слухай, так не разыходзься, бо я хоць і палахлівы, але-ж цябе не баюся.

Сьцяпан (*у бок*). Вось яшчэ й сашчэпяцца.

Максім (*у бок*). Як мне праціўна, што ён такі лукавы.

Зьміцер. Хто лукавы? Я?

Максім. Ды ўжо-ж ты. (*Да Сьцяпана*). Сябруе з табою, сябруе, ні ў царкву, ні на кірмаш адзін ня ходзіць. Кварту гарэлкі паставіў як быццам з радасьці, што цябе ў салдаты ня ўзялі, а як прышлося ўступіцца за цябе, дык ён і анямеў. Хіба-ж гэта ня лукавасьць.

Сьцяпан. Гаворыцца-ж табе, што ён спужаўся.

Зьява III.

Тыя-ж і Ганулл.

Ганулл (*уваходзіць з левага боку*). Як вы не пахрыпнеце тут, так крычучы? Я думала, што тут бойка якая, ці што?

Максім. Цяпер ужо ня бойка—толькі лаянка, а нядаўна была й бойка.

Ганулл. З кім, за што? Чаго ты бледны такі, Сьцяпан?

Максім. Стаў магарыч. Толькі што адвалондаў твайго маладога ад сьмерці.

Ганулл. Ой, божухна, мабыць зноў з Куртатым сашчапіліся?

Максім. Ды няўжо-ж!

Ганулл. За што?

Зьміцер. Чорт ведае за што. Ідзем гэта мы выганам, а ўперадзе нас Сьпірыдонаў унук карову гоніць. Адкуль узяўся, як з зямлі вырас, гэты самы Куртаты, сьцебануў пугаю карову, тая, вядома, у бок, ды ў яго жыта. Хлапец у голас ды за кароваю, а Куртаты, колькі духу хапіла, наўпярэймы ды й загнаў карову дя сябе ў двор. „Нясі, крычыць, рубля, бо йначай не аддам“.

Максім. А Сьцяпан, пэўна, уступіўся за хлапца?

Зьміцер. А Сьцяпан, як звар'яцеўшы, у двор, дый пачаў вось гэтаю палкаю лупцаваць Куртатага па плячох. „Вось табе, кажа, рубель, вось табе два“. Той даваць здачы, ну й пашло.

Ганулявала (*да Сьцяпана*). І колькі я табе разоў казала, не займайся ты з гэтым Куртатым, няхай на яго хвароба. Гэта-ж зьвер, а не чалавек.

Сьцяпан. Ён на маіх вачох сярод белага дню грабіць людзей, а я павінен маўчаць патвойму?

Максім. Вось пачакай, не сярдуй. Я табе даўно казаў: сам ты яго не чапай, а калі хочаш трохі наўздаваць яму, дык скліч хлапцоў, падсьцеражэм дзе гуртам у зацішку ды й пагрэемся ў волю.

Сьцяпан. Хіба я бандыт які, душагуб, каб на засады пашоў. Калі ён мяне не чапае, дык няхай хоць дваццаць чалавек будзе на маім боку, а я яго не крану. А як дапячэ так, як сёньня, то я й сам пайду супроць усяе яго дворні... 'Але годзі ўжо пра гэта гаварыць. Аж прыкра: паіграліся, як малыя дзеці, а гоману дык на ўсю вёску будзе.

Максім. Вось заўзяты! Рука й так баліць, што расправіць у локці ня можна, а яму яшчэ мала.

Гануля (*хапае Сьцяпана за рукі*). Хіба-ж запраўды руку перабіў?

Сьцяпан. Дзе там перабіў—зачапіў трохі, ну, годзі! Гануля, сёньня я ня прыду да цябе—павяду коні на начлег. Бывай. (*Уходзіць налева. За ім Максім і Зьміцер*).

Зьява IV.

Гануля й маці (выходзіць з хаты).

Гануля. Ведаецце, мама, Сьцяпан ізноў пабіўся з Куртатым.

Маці. Чаго добрага, яны калі-небудзь і пазабіваюць адзін другога: той усё, а гэты—як кастрыца: чоркні запалку, так і загарыцца.

Гануля. Не, мама, Сьцяпан дарэмна не зачэпіць.

Маці. Вядома, табе-ж Сьцяпан лепшы за ўсіх хлапцоў на сьвеце, а я такіх гарачых зроду ня любіла. Вось Зьміцер—хлапец па мне: ціхі, пакорлівы, прыветны... Але ты лепш ведаеш, хто табе да пары.

Гуляй каля хаты, а я пабягу на хвіліну да Яўдохі. (*Ідзе налева*).

Гануля. Ідзеце! (*Адна некалькі разоў праходзіць па сцэне і ціха напявае: „Усе казалі“ Лірнік стр. 12 № 11, альбо што іншае*).

Зьява V.

Гануля і Зьміцер (уваходзіць з-за хаты).

Зьміцер (*ласкава*). Ну, што-ж замоўкла? Адна? Сумуеш?

Гануля. Чаго-ж мне сумаваць? Насумавалася за свой век і так, даволі з мяне...

Зьміцер. Баялася ўсё, што Сьцяпана ў салдаты возьмуць? Ня ўзялі, ня ўзялі і ня возьмуць, не разлучаць вас, заспакойся.

Гануля. Я й без тваіх слоў ужо спакойна... А ты куды накіраваўся? Пэўна да Марысі? (*Ходзіць*).

Зьміцер (*паглядае ў сьлед*). Да Марысі, да Марысі, а пакуль сьцямнее, пагуляю з табою. (*Сядае з ёю*). А можа ты баішся і быць са мною?

Гануля. Чаго-ж мне баяцца?

Зьміцер. А каб Сьцяпан не прыраўнаваў.

Гануля. Да цябе?

Зьміцер. Ну, так, да мяне. Хіба-ж я такі хлапец, што ня варта й раўнаваць?

Гануля. Я—Сьцяпанава нявеста, ты—таварыш яго, маеш сабе заручаную дзяўчыну—чаго-ж яму нас раўнаваць?

Зьміцер. Вядома... Але-ж я на яго месцы раўнаваў-бы цябе да кожнага, бо дзявочае сэрца, як воск: растае хутка, а застывае яшчэ хутчэй.

Гануля. Як да дзяўчыны...

Зьміцер. Усе вы адным мірам мазаны. І ты не адстаеш ад іншых.

Гануля. Можа, я сама сябе ня бачу.

Зьміцер. Дык вось, я табе давяду. Ведаеш, як Марыся мяне шчыра кахае і сьвету загэтым ня бачыць...

Гануля. Ну?

Зьміцер. А вось як я толькі ня прыду дзень-другі, дык яна і з Максімам і з Сьцяпанам будзе гуляць, і абыходзіцца, як і са мною. Тое-б было і з табою, каб Сьцяпана ўзялі ў салдаты. Праз год і забыла-б.

Гануля. Ой, не...

Зьміцер. А то можа чакала-б яго цэлых тры гады?

Гануля. І чакала-б.

Зьміцер. Няўжо-ж ты так шчыра яго кахаеш?

Гануля (*сур'ёзна*). Што я на споведзь да цябе прышла, ці што? Ідзі лепш да сваёй Марысі.

Зьміцер. Да Марысі... А чаму-ж я не магу тут быць?

Гануля. Можаш сабе быць і тут, але-ж толькі ты заручыўся з ёю.

Зьміцер. Дык што калі заручыўся?

Гануля. Ня думала я, Зьміцер, што ты такі бяссумленны хлапец. Яна-ж цябе больш усяго на сьвеце кахае, а ты...

Зьміцер (*махнуўшы рукою*). Якое мне дзела да яе.

Гануля. А якое табе дзела да мяне, да Сьцяпана, да нашага каханьня?

Зьміцер. А хіба ты забылася, што я табе казаў яшчэ два гады таму назад на чоўне, а?..

Гануля. Ты-б стыдаўся і ўспамінаць пра тое. Я помню, што ты мне казаў, але-ж помню, што і я табе адказала. Пара ўсяму гэтаму пературлець.

Зьміцер. А вось бачыш—не пературлела. Мне ўжо 30 гадоў мінула, а я яшчэ не жаніўся, а чаму?..

Гануля. А хіба я ведаю?

Зьміцер. А таму, што не магу апрача цябе нікога палюбіць.

Гануля. І чаму табе ў галаву прышло пачаць гэтую размову? Маўчаў два гады, а сёньня ўспомніў тое, што час даўно забыць.

Зьміцер. Маўчаў, бо пэўны быў, што Сьцяпана возьмуць у салдаты.

Гануля. Апамятайся, Зьміцер, што ты гаворыш. Праз два тыдні мае быць наша вясельле, а ты чорт ведае што пляцеш. А яшчэ лічыш сябе таварышом Сьцяпана. Ды калі-б я пераказала яму ўсё, дык ён-бы навучыў цябе, як абходзіцца з яго нявестаю.

Зьміцер (*з усьмешкаю*). Няхай вучыць.

Гануля. Выкінь, Зьміцер, глупства з галавы. Ня быць руні на камені, ня быць і нам з табою ў пары. Ты ўпарты, а доля яшчэ больш упартая. Не абражай мяне і не прымушай сварыцца з табою.

Зьміцер. Хіба маё каханьне абраза? Хіба за тое, што я цябе кахаў, кахаю і кахаць буду да самае сьмерці, ты павінна мяне ненавідзець?.. Праз два тыдні вясельле—сёньня трапілася зручная хвіліна прызнацца табе, пачуць ад цябе славечка..і

Гануля. Ня быць руні на камені—ня быць нам у пары—вось табе маё славечка. (*Ідзе ў хату*).

З ь я в а VI.

Зьміцер адзін.

Зьміцер (*злосна*). Эх, пракляты язык, ня стрымаўся. (*Садзіцца, некалькі хвілін маўчыць, потым устае, кідае шапку воб зямлю*). Не, так ня будзе, як ты кажаш, Гануля. Узыйдзе рунь і на камені, будзеш і ты маёю, калі я таго захачу. Здабываюць сабе людзі славы, багацьце, чаго-ж мне не здабыць сабе шчасьця? Нічога, што не кахаеш мяне, прымушаюць-жа бацькі дачок ісьці замуж і яны йдуць, з плачам, з праклёнамі, але йдуць і жывуць з нялюбымі. (*Падымае шапку, маўчыць*). Адзін чалавек толькі стаіць на дарозе да шлюбу, а здаецца,што ўвесь сьвет, усе куточкі запоўнены ім... Эх, Сьцяпан, не заступаў-бы ты мне сьвету белага, не ляжаў-бы каменем на сэрцы, калі-б Максім не наскочыў і не адбараніў. Ляжаў-бы ты цяпер на покуце, на ўслоне, бо Куртаты заехаў-бы добра па галаве, і была б мне вольная дарога... Эх, але-ж... нічога. (*Апусьціў уніз галаву*).

З ь я в а VII.

Зьміцер і Марыся (уваходзіць).

Марыся. Вось бачыш, Зьміцер, як-жа мне ня плакаць? Ты-ж прысягаў, што ня ходзіш да Ганулі.

Зьміцер. А ты ня бачыш хіба, што тут ніякае Ганулі няма. Ці мне ўжо й ля яе хаты хадзіць ня можна?..

Марыся. О, ужо адразу і ўскіпеў. Ня гневайся, мой дарагі. (*Цалуе яго*).

Зьміцер. І адкуль цябе прынесла? Чаго ты прышла? Сачыць за мною?

Марыся. Што ты, і ня думала сачыць за табою.

Зьміцер. Ня думала...

Марыся. Далібог не, я прышла сказаць нешта Ганулі. (*Глядзіць у вакно*). Гануля, хадзі сюды на хвіліну.

З Ь Я В А VIII.

Тыя і Гануля.

Марыся (*да Ганулі*). Калі-б ты ведала, сястрыца, што на нашым канцы робіцца?

Ганул я. А што?

Марыся. Куртаты пабіў Аксіньню.

Зьміцер. Што-о-о? Куртаты пабіў Сьцяпанаву сястру?

Марыся. Пабіў і прагнаў з двара.

Зьміцер. За што?

Марыся. А халера яго ведае. Вось як пашоў Сьцяпан са двара, дык ён адразу й прысукаўся да Аксіньні. Тая пачала перш плакаць, а потым „Давайце, кажа, рашчот, бо Сьцяпан даўно забараніў мне служыць у вас". Тут Куртаты як разьеўся ды як пачаў „рашчоты даваць"... лаяў, лаяў, і яе, і Сьцяпана, і ўвесь іх род, а потым ухапіў Аксіньню за каўнер і выпхнуў за дзьверы.

Гануля. Ай-яй-яй. Калі-б Сьцяпан даведаўся, вось было-б.

Зьміцер. Ідзі, Марыся, да Сьцяпана і раскажы ўсё.

Ганул я. О, не, не. Ні слова, Марыська, не кажы.

Зьміцер. Як Марыся ня скажа, дык я сам раскажу яму. Якая страшэнная абраза...Сястру б'юць, гоняць, як сабаку...дык я-б першы прыняў за ворага таго, хто ўтаіў-бы гэта ад мяне. Пайду і зараз-жа скажу Сьцяпану.

Ганул я. Ай, родненькі, ня йдзі. Ня йдзі сёньня. Заўтра скажаш, у дзень бясьпечней.

Зьміцер. Ну, як знаеш, няхай будзе патвойму. (*Ідзе*).

Ганул я. Куды-ж ты?

Зьміцер. Я не вячэраў яшчэ.

Ганул я (*глядзіць яму ў сьлед*). Калі-б ён не пашоў да Сьцяпана...

Марыся. Не, не, ня бойся, ня пойдзе. Бач, да дому проста накіраваўся.

З Ь Я В А IX.

Марыся, Гануля і Максім.

Максім. Добры вечар, дзяўчаты! Гуляеце?

Ганул я. Максімку, парадзь, як Сьцяпана апавясьціць, што Куртаты Аксіньню пабіў?

Максім. Пабіў...няўжо?

Марыся. Пабіў і са двара выгнаў.

Максім. Эх, пракляты, мала я яму сёньня наклаў.(*Дзесь далёка чуваць сьпевы.Прыслухоўваюцца*).

Максім. Вось разышліся.

Ганул я. Гэта-ж нашы на лугу гуляюць. Здаецца сюды йдуць...так, так, ідуць. (*Недалёка чуваць гоман, які ўсё прыбліжаецца).*

Марыся. Сёньня-ж субота, а я зусім і забылася. Ідзем і мы да іх, чаго нам тут быць адным.

Ганул я. А вось і самі яны тут.

З Ь Я В А X.

Тыя-ж, дзяўчаты і хлапцы ўваходзяць. Некаторыя пяюць жартуюць.

1-я дзяўч. Вось вы дзе, а мы шукаем.

1-ы хлапец. І як табе, Гануля, ня сорамна ўцякаць ад нас?

Ганул я. Я не ўцякала, а толькі прышла павячэраць.

2-я дзяўч. Даволі тут ужо вячэраць. Заўтра ўсмак нечага пасьнедаеш, а Марыся сёньня зусім нешта нікуды не паказваецца?

Максім. Эт, даволі гаварыць. Давайце, дзяўчаткі, „Лявоніху".

Усе. Давайце. (*Пяюць і скачуць*).

1-я дзяўч (*да Ганулі і Марысі*). Ведаеце, гэта-ж ня ўсе яшчэ сюды прышлі, там-жа нас чакаюць. Хадзем лепш туды на луг, вось там прастор!

Усе. Хадзем, хадзем. (*Пяюць „Дзе ты, хмелю, зімаваў" альбо што іншае, і па пары ідуць. Гануля ідзе з Максімам*).

З Ь Я В А XI.

Нейкі час сцэна пустая. Потым уваходзяць Сьцяпан і Зьміцер Чуваць голас Зьмітра: „Цішэй, цішэй, бо". Уваходзяць. Далёка чуваць сьпевы: „А ў полі вярба, пад вярбою вада".

Сьцяпан (*абмацвае плот, хапаецца за кол).* Ня выцягну, рука баліць, цягні ты.

Зьміцер (*бярэцца за кол).* Усе яны наваліліся на мяне: „не кажы ды не кажы сёньня", а я такі не сьцярпеў і пабег да цябе. Як-жа гэта, такая страшэнная абраза...родную сястру пабіў, выгнаў...

Сьцяпан. Дзякую табе, дружа, што ты не паслухаў тых авечак палахлівых і сказаў мне.

Зьміцер. Не прызнавайся нікому, што я табе сказаў.

Сьцяпан. Ды я-ж бажыўся, што да самае сьмерці нікому не скажу. А што, выврваў?

Зьміцер. О (*адрывае кол*), так Аксіньню пабіў, што вадою адлівалі, глядзі, ці не прабіў галавы

Сьцяпан. Хадзем-жа, браце, хадзем. Аддзячым яму за ўсіх...

З А С Л О Н А.

# ГОРАД.

## Як жыве і працуе рабочая моладзь Менскай электростанцыі.

У вёсцы яшчэ цёмна. У вёсцы яшчэ паляць газу. Толькі цяпер пачала Савецкая ўлада будаваць электростанцыі і па вялізных вёсках. Але толькі цяпер.

Ня тое ў горадзе. Сьвятло тут вечарам. Ярка гараць электрычныя лямпачкі, і ўвесь сьвет гэты цячэ ад электрычнай станцыі.

Менская эл. станцыя ўжо „бабуля". Існуе яна больш як 30 год. Праца ў ёй за гэты доўгі час ня спынялася ні на адзін раз.

Праўда, у чорныя дні, дні польскае окупацыі, вось - вось ня прышоў яе „крах". Палякі думалі пусьціць яе на паветра,—узарваць. Але моцны ко-



Менская электростанцыя. Дызель.

лектыў рабочых адстаяў, станцыя засталася жыць, жыць і карысна працаваць.

У сучасны момант на станцыі працуе 300 рабочых, з якіх 30 чалавек моладзі.

Працуюць хлопцы па розных цэхах (аддзяленьнях): хто ў сьлясарным, машынным, электрычным.

Да чаго каго цягне.

Вучацца па брыгадах.

3 гады папрацаваў з ахвотаю, з карысьцю, атрымаў кваліфікацыю (спэцыяльнасьць), і ты ўжо ня вучань, а рабочы.

Хлопцы аб'яднаны ў комсамольскую ячэйку. Яна вядзе, яна кіруе ўсёй культурна-асьветнай працай сярод іх.

Вечарам у родным клюбе бурліць жыцьцё. Вечарам у родным клюбе не змаўкаюць ні сьпевы, ні гутаркі. Весела вечарам у клюбе.

Толькі ў некаторых пакоях ціха. Тут гурткі.

Вось палітычны. Уважліва слухаюць хлопцы даклад кіраўніка. Аб усім тлумачыць ён. Толькі дзякуючы гэтаму гуртку хлопцы і ведаюць, хлопцы і разумеюць увесь клубок палітычнага „сёньня".

Далей ідзе гурток спортыўны. Яго лёзунгі:

„У здаровым целе—здаровы дух".

Гэты гурток найлюбімы.

Не дарма амацнелі хлопцы, ужо загартаваліся.

З гурткоў яшчэ трэба адзначыць драматычны.

У ім моладзь гэтак сама актыўнічае.

Праца ў гуртку наладжана добра, ён ня раз ужо выяжджаў у падшэфную вёску, рабіў у ёй вечары, якія вельмі захаплялі сялянства.

— Хлопцы! хлопцы! Айда ў клюб, насьценную газэту выпусьцім.

З такой радасьцю заўсёды сустракаюць новы нумар.

Газэта на станцыі супольная—і моладзі і рабочых. Імя ёй „Дынамо" (назва машыны, якая вырабляе электрычны ток); яна яскрава і цікава адбівае жыцьцё ўсіх працуючых на станцыі.

У сьвяты вялікія, юбілеі ячэйка комсамольская асобна выпускае сваю насьцен. газэту.

Тады кіпіць дзела—хто піша, хто малюе. Весела.

А потым, калі павесяць на сьценцы, дык колькі радасьці, колькі гутарак!..

І крыюць і хваляць. Усяго хапае.

Моладзь—лепшы праваднік ідэй новага быту на станцыі.

З майстрамі хлопцы жывуць дружна (душа ў душу), часта робяць вечары яднаньня, якія яшчэ больш замацоўваюць іх таварыскую сувязь.

„Тварам да вёскі".

Шэфства станцыя вядзе супольна з КПБ і ЛКСМ.

Шэфствуюць над вёскай Астрашыцы (Астрашыцка-Гарадзецкага раёну).

Якую зрабілі за год працу?

Вось вынікі:

Адчынена хата-чытальня, адчынена сельска-гаспад. таварыства, узята на „буксір" вясковая комсамольская ячэйка, якая досыць кульгала раней.

Выпісаны часопісі і газэты.

Я. Першамайскі.

# Як чытаць кніжку.

*Артыкул Н. К. Крупскай.*

1. Каб чытаць выразна, трэба выпрацаваць у сябе навык шмат і хутка чытаць. Трэба, каб мэханізм чытаньня не адрываўся ад зьместу чытаемага. Навык хуткага чытаньня пра сябе набываецца практыкай.

2. У час чытаньня трэба мець пад рукою: палітычны славар, вядома, маленькі і папулярны, карту СССР, Эўропы, Амэрыкі.

Такія справачнікі павінны быць у кожнай бібліотэцы, хаце-чытальні.

Вось чаму карысна чытаць у бібліотэцы. Калі працуем дома і пералічаных прыладаў ня маеш—трэба ўсё незразумелае і невядомае табе запісаць у сшытак, а потым ужо ўявіць.

3. Пры чытаньні, як і пры іншай рабоце, трэба паставіць сябе ў спрыяючыя ўмовы, г. зн. трэба імкнуцца, каб у хаце было чыстае і сьвежае паветра і каб кроў правільна прыцякала да мазгоў. Трэба, каб было досыць сьвятла і каб гэты сьвет правільна падаў на кніжку. Трэба апасацца ўсяго таго, што мяшае чытаньню. А галоўнае—гэта трэба выбіраць такі час для чытаньня, у які організм ня ўтомлен іншаю працаю.

Лепш за ўсё працаваць з ранку ці прышоўшы з працы і крыху паспаўшы.

Бібліотэка звычайна зьяўляецца добрым месцам для чытаньня.

4. Рашучае значэньне мае выбар кніжак. Правільны выбар кніжак дае вялізную экономію ў часе і затраце энэргіі. Пажадана па кожным пытаньні прачытаць ня ўсе кніжкі, напісаныя на тую ці іншую тэму, а адну ці дзьве.

З гэтае прычыны падумай па якім пытаньні хочаш чытаць—запытайся ў больш сьвядомых таварышоў, у спэцаў па гэтым пытаньні, у бібліотэкарэ і яны скажуць, якія кніжкі лепш пачытаць, каб уявіць задуманую табою тэму.

Асноўныя кніжкі трэба вывучваць вельмі ўважліва. Гэта дапаможа табе разабрацца ў далейшым чытаньні.

5. Чытаючы ты павінен задаць сам сабе пытаньне: што хоча гэтым сказаць аўтар кніжкі? Асноўныя яго мысьлі? Ї тут-жа прамазгаваць. Справаздачнае ўсваеньне прачытанага—першы крок у справе сьвядомага чытаньня.

6. Каб лепш уцяміць прачытанае, карысна рабіць з прачытанай кніжкі выпіскі. Выпіскі рабіць трэба ўмеючы. Ня варта траціць часу на перапіску дзесятка старонак, Карысна выпісваць самае галоўнае, запісваючы коратка, бяз лішніх слоў і чытэльна, каб у далейшым можна было прачытаць хутка і лёгка запісанае.

Больш падрабязна варта запісваць толькі сказы вялікай вартасьці. Запісваць трэба не на кусочках паперы, якія хутка губляюцца, а ў сшытак.

7. Трэба ня толькі ўразумець прачытанае, а й памысьліць над зьместам кніжкі. Калі асноўная ідэя ілюструецца фактамі, то трэба прыглядзецца да іх жыцьцёвасьці.



Хлопцы чытаюць кніжку.

Чытаючы развažаньні аўтара варта падумаць, ці нельга ў даным выпадку развažаць як-небудзь інакш. Трэба падумаць і над тым, ці ня можна вырашыць тую ці іншую справу, гледзячы з другога боку.

Напасьледак трэба падвесьці ітог прачытанаму: ці дала кніжка што-небудзь новае, ці можна згадзіцца з поглядам аўтара і інш.

8. Калі некалькі асоб зацікавяцца адным пытаньнем—ім лепш за ўсё ўтварыць гурток і разам у ім працаваць, гутарыць аб прачытаным і інш.

Праца ў гурткох вельмі карысна тады, калі сябры гуртка акуратна наведваюцца на заняткі, прыхільна да іх адносяцца і дапамагаюць адзін аднаму ў справе прамазгаваньня прачытанага.

У кніжках—цэлая скарбніца ведаў, толькі трэба ўмець гэтыя веды перанесьці з старонак кніжкі ў сваю галаву.

# Адгадай.

Пад рэдакцыяй А. Круталевіча.

### Квадрат № 15.

Расставіць літары так, каб можна было прачытаць чатыры словы зьлева направа й зьверху ўніз.

| | | | |
|---|---|---|---|
| а | а | а | а |
| і | і | к | к |
| л | л | н | н |
| р | с | у | у |

### Задачка № 16.

Падзяліць 7 яблыкаў на 12 роўных частак пры ўмове, каб кожны яблык рэзаць менш, чымся на 12 частак.

### Галаваломка № 17.

Адняць ад гэтай фігуры (якая зложана з 24 сярнічак) 6 сярнічак, каб вышлі тры квадраты.



### Загадка № 18.

Я—сіла.
Бяз першай літары—напітак.
Бяз дзьвёх—вучоны.
Хто я?

### Разьвязаньне задач, зьмешчаных у № 3.

*Задачка літар № 5.*—Ленін, Маркс.
*Квадрат № 6.*—Нэп, эра, пар.
*Задачка № 7.*—Сыну цяпер 15 год.

*Галаваломка № 8.* Кропкамі паказаны сярнічкі, якія трэба пераставіць.



*Загадка № 9.*—Кара, пара.

*Разьвязалі*: В. Казачэўскі і К. Казлоўскі (Бацэвічы), Я. Будзька (Чырв. Слабада)—усе задачы №№ 5—9; А. Сухавера (Цытва)—№№ 5, 6, 7 і 8; П. Гарэльчык (Цытва)—№№ 5, 6 і 7; С. Казьцевіч (М.-Горка)—№№ 5, 7 і 8; В. Казлоўскі (Шацк) і М. Шапіра (Горкі)—№№ 5 і 6.

*Папраўка.* У рэбусе № 10, зьмешчаным у прошлым нумары, няўдала вышаў малюнак ноты. Павінна быць нота „мі“.

*Таварышы, прысылайце свае ўласныя цікавыя задачкі. Будзем друкаваць.*

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Іван Селяво** *(Бешанковічы)*, **І-шы атрад Юн. Піонэраў А. Г. Чарвякова** (*Крычаў*), **М. Кароткі** (*Анятова*), **В. Куніцкі** *(Дукора)*—**вам рэдакцыя выпісала ў лік ганорару „Малады Араты“ на 3 месяцы** *(чэрвень-жнівень)* **і т. т. Л. Кастырэнка** (*Горазна*), **Язэпу Макарэвічу** *(Рудзенск)*, **М. Лабаты** (*Беларучы*), **М. Кузьма** *(Расьняны)*, **М. Скварцоў** *(Блеўчыцы)*, **М. Гаеўскаму** *(Стара-Барысаў)*, **К. Грэкаў** (*Хатаўнянская яч.)*, **Тарапловіч В.** *(Случчына)*, **К. Заруба** (*Балотня)*, **вёска Сітнікі, комсамольская ячэйка**—выпісан на 2 месяцы (*чэрвень-ліпень)*.

**М. Н. Варона, І. Сьвірытоўскі** (Ахтыра, Харкоўская губ.) за атрыманыя грошы рэдакцыя выпісала вам „Малады Араты“ на чэрвень месяц.

### Да ўсіх нашых корэспондэнтаў.

Рэдакцыя „Маладога Аратага“ зьвяртаецца з просьбай запісваць і прысылаць у рэдакцыю вясковыя частушкі, якія вы пачуеце ў вёсцы. Апрацаваўшы, будзем зьмяшчаць у „Маладым Аратым“.

**М. Красоўскаму.** Верш „Першага мая“ спазьніўся. Друкаваць ня будзем. Чакаем допісаў пра жыцьцё моладзі ў в. Пліса.

**Казлоўскі В.** (м-ка Шацк, Меншчына)—твае заметкі надрукуем. Пішаш ты добра. Юнкорам „Маладога Аратага“ залічылі. Часьцей пішы і своечасова прысылай матэрыял.

**Лазару Пахомавічу.** (Аршанскі раён)—„Малады Араты“ выходзіць выключна на беларускай мове. Твой верш „Привет борцам Болгарии“—напісан добра, і каб ён быў яшчэ напісан пабеларуску—мы яго зьмясьцілі-б, а так перадалі ў газэту „Чырвоная Зьмена“. Пробуй пісаць пабеларуску.

**Комсамолец Ч. В.** (Шацк). Увесь іншы матэрыял скарыстаем у шостым нумары „М. Ар.“

Рэдактары: { **А. Самахвалаў.**
**Іл. Барашка.**

1-я Дзярж. друк. Зак. № 3481—(1500). Галоўлітбел № 10369.

10078.

### Чорныя дні.

Шмат людзей, якія прыкідваліся ў 1905 годзе рэволюцыянэрамі, спуджаныя сьцігваньнем, здрадзілі народу і перашлі ў лягер, варожы працоўным, даноў і капіталістых.

Толькі бальшавіцкая партыя, на чале з т. Ленiным, няўхільна працягвала цяжкую барацьбу з царом і яго слугамі. І т. Рыкаў, як бліжэйшы памоцнік т. Леніна, у тыя часы паказаў сябе сапраўдным рэволюцыянэрам, які ніколі ня здрадзіў сваёй справе.

У пачатку 1906 году Аляксей Іванаў патайна пасяліўся ў Маскве, жыў тут па пашпарту фэльчара Сухаручанка.

1-га траўня 1907 г. яго арыштавалі і, па пастанове міністра ўнутраных спраў ад 28-га чэрвеня 1908 г., аддалі пад гласны нагляд паліцыі на 2 гады.

26-га сакавіка 1909 году ссылка яго была заменена выездам заграніцу. Але т. Рыкаў рваўся да жывой рэволюцыйнай справы. І хутка ізноў вярнуўся ў Расію па чужому пашпарту.

Хутка, вярнуўшыся з-за граніцы, Аляксея Іванава арыштоўваюць і высылаюць пад нагляд паліцыі ў Архангельскую губэрню тэрмінам на 3 гады.

8-га сьнежня 1910 году Аляксей Іванаў уцякае з гораду Пінегі, куды быў высланы паліцыяй, заграніцу ў Парыж, і тут бярэцца за выпаўненьне абавязкаў члена Цэнтральнага Комітэту.

Летам 1911 г. т. Рыкаў ізноў варочаецца па важнай партыйнай справе ў Расію. І зноў жандары арыштоўваюць яго ў Маскве, цэлых 9 месяцаў трымаюць у турме і, нарэшце, высылаюць у тую ж Пінегу, адкуль ён ізноў уцякае. У кастрычніку 1913 году, пасьля некалькіх месяцаў рэволюцыйнай работы, Аляксея Іванава арыштоўваюць у Маскве і высылаюць пад нагляд у Сібір, у далёкі Нарымскі край тэрмінам на 4 гады.

Але і адтуль уцякае ён 20 верасьня 1914 году назад на працу ў Самару. Працаваць удалося нядоўга. Цераз месяц т. Рыкава арыштавалі і выслалі зноў у Нарымскі край.

Тут яго і застала лютаўская рэволюцыя 1917 г.

### За Рабоча-Сялянскую Уладу.

Як толькі т. Рыкаў вярнуўся з ссылкі ў Маскву, яго зараз-жа выбралі ў прэзыдыум Маскоўскага Савету Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў.

Быццам і закончыліся дні доўгага бадзяньня, гады бязупыннай барацьбы. Быццам можна крыху і адпачыць ад вечнай пагоні і сьцігваньняў ворагаў.

Але не, не да адпачынку бальшавікам. Часовы ўрад Керанскага, захваціўшы ўладу рукамі рабочых і сялян, пачынае біць адбой і на кожным кроку здраджваць справе рэволюцыі. Рабочых стараюцца адпіхнуць у бок, перадача зямлі сялянам адкладваецца ў доўгую скрынку. Паціху буржуазія зьбірае свае сілы і рыхтуецца скруціць у казіны рог рабочых. Паны-ж, як ні ў чым і ня было, сядзяць на награбленай у сялян зямлі.

Вярнуўшыся з-за граніцы, т. Ленін кідае ў красавіку 1917 году баявы кліч: „Уся ўлада Саветам Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў“.

Але на шляху да заваёў улады рабочымі і сялянамі стаяць эсэры і меншавікі, якія на карысьць паном і буржуазіі зацягвалі вайну. Ільліч і яго партыйныя таварышы пачынаюць суровую барацьбу з імі. Цераз некалькі месяцаў рабочыя Ленінграду і Масквы поўнасьцю былі на баку бальшавікоў. Гарачы ўдзел прыняў у гэтай барацьбе і Аляксей Іванаў Рыкаў. Па яго дакладу Маскоўскі Савет у ліпені 1917 году ўпяршыню прыняў рэзолюцыю супроць здрадніцкай політыкі Керанскага—эсэраў і меншавікоў.

Да восені барацьба завязваецца не на жыцьцё, а на сьмерць. Як т. Ленін, як усе комуністыя,—Аляксей Іванаў увесь аддаецца гэтай працы, падрыхтоўцы Кастрычнікавага паўстаньня.

У кастрычніку 1917 г. рабочыя і сяляне перамаглі. Часовы ўрад паў, і ўлада перашла ў рукі рабочых і сялян.

Трэба было адразу-ж узяцца за адбудаваньне Савецкай Рэспублікі.

Аляксей Іванаў вызначаецца на адпаведную пасаду Народнага Камісара Ўнутраных Спраў. За раз-жа пасьля таго, калі было організавана дзяржаўнае кіраўніцтва ўсімі фабрыкамі і заводамі, або „Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі“, дык на чале гэтага важнейшага Камісарыяту Савецкая ўлада паставіла таго-ж Аляксея Іванава Рыкава.

### На варце народнай гаспадаркі.

Праца т. Рыкава па аб'яднаньню кіраўніцтва ўсімі заводамі і фабрыкамі рэспублікі была вельмі вялікая. Ён уважліва сачыў за тым, каб ні адна частка, ні адзін вінцік гэтай складанай дзяржаўнай машыны не загубіўся, ня зьнік ад учоту і аб'яднаньня.

Часы былі цяжкія. З поўначы, з поўдня, з усходу і захаду,—адусюль сьціскалі нас ворагі. Крыніцы хлеба, вугля і нафты былі ад нас адрэзаны, між тым, заводы павінны былі без перапынку працаваць для арміі і сялян.

Асаблівую ўвагу ён заўсёды аддаваў пытаньню аб дастаўе патрэбных снасьцяў і машын сельскай гаспадарцы. Нават у самыя цяжкія часы грамадзянскай вайны, калі амаль усе савецкія заводы працавалі на Чырвоную армію, Аляксей Іванаў увесь час казаў сваім супрацоўнікам, што трэба ўсякім выпадкам карыстацца для задавальненьня патрэб сельскай гаспадаркі.

Усім вядома, што пад кіраўніцтвам А. І. Рыкава прыняты ў апошнія часы важныя для сялян рашэньні: зьніжэньне цэн на гарадзкія тавары і павышэньне на сельска-гаспадарчыя вырабы; павялічэньне вывазу сельска-гаспадарчых вырабаў заграніцу; льготная прадажа сельска-гаспадарчых машын; організацыя сельска-гаспадарчага банку і інш.

Наогул, па сваіх уважлівых адносінах да патрэб сялянства т. Рыкаў зьяўляецца паступоўцам У. І. Леніна.

## ЗЬМЕСТ.

394

„ПАДПІСВАЙЦЕСЯ —"

=1=

ЧЫТАЙЦЕ

двухтыднёвую часопісь

сялянскай моладзі

# „МАЛАДЫ АРАТЫ"

### ОРГАН

**Цэнтральнага Комітэту Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.**

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб **політыцы.** Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—дае парады сялянскай моладзі, у **каго вывучыцца,** зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—вядзе барацьбу за **новую вёску,** змагаецца з усімі дрэннымі бакамі жыцьця вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—для сялянскае моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаных з працаю вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена", так і інш.

**Умовы падпіскі—з дасылкаю да хаты:**

на 1 месяц 15 кап.
на 3 месяцы 45 кап.
на 6 месяцаў 90 кап.



**Падпіска прымаецца** ва ўсіх паштоватэлеграфных аддзяленьнях, у аддзяленьнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, а гэтак сама непасрэдна ў аддзеле распаўсюджаньня Газэтнага сэктару Белдзяржвыдату (Менск, Савецкая, 63).

**Адрас рэдакцыі:** Менск, Комсамольская, 25 тэлефон № 2—94.

